ПЕРАПІСКА

## Немагчыма сёння правесці рэферэндум!

*Кампанія па правядзенні "Народнага рэферэндуму" сапраўды даўно наспела. Але ці магчыма тэхнічна яе правесці? Па-першае, дыктатарскі рэжым ніколі не дазволіць і зробіць усё, каб ніякі рэферэндум не адбыўся. Гэта магчыма толькі тады, калі народ масава выступіць, але ж мы не лівійцы, не сірыйцы, не егіпцяне і г.д. Хіба манкуртаў разварушыш? Хоць яны таксама енчаць, але сваю кутніцу з канапы не падымуць, гэта ж наш рабскі менталітэт, і пакуль пераламаць яго немагчыма.*

*Сёння ў Пружанах поўны палітычны штыль. У народа толькі адзін клопат — чарка і агурок, бо ўжо не кожны мае скварку. Тым не менш толькі і чуеш традыцыйнае: "А хто лепшы?" І няма сёння на Пружаншчыне чалавека, які знайшоў бы такія словы, каб народ паверыў менавіта яму. Таму разлічваць на падтрымку "Народнага рэферэндуму", на мой асабісты погляд, вельмі цяжка.*

*Па-другое, вы прапануеце на рэферэндум вынесці пытанні: ахова здароўя, пенсіённыя рэформы, выбарнасць кіраўнікоў мясцовай улады, незалежнасць судовай сістэмы і г.д. Можна яшчэ налічыць не адну сотню важных пытанняў. А ці не лепш было б усе пытанні аб'яднаць у адно? Аднаўленне (вяртанне) Канстытуцыі 1994 года. І гэта адразу пацягне ланцужок вырашэння ўсіх астатніх праблем. Вядома, Канстытуцыя 1994 года не зусім дасканалая, але гэта самае лепшае, што мы маем. Хоць і вынясенне на рэферэндум шматлікіх асобных пытанняў у нейкім сэнсе таксама мае рацыю, але ўскладняе пры гэтым саму працэдуру.*

*На гэты конт хацелася б праз "Народную Волю" пачуць ад вас адказ.*

**З павагай да вас шчыры пазьняковец —**

**Мікола ЖУК.**

*г.Пружаны.*

***Свой ліст падпісчык "Народнай Волі" Мікола Жук адрасаваў першаму намесніку старшыні руху "За Свабоду" Юрасю Губарэвічу. Вось што яму адказаў палітык.***

## Юрась ГУБАРЭВІЧ:
## «Аб'яднаемся ў адстойванні сваіх правоў і інтарэсаў»



— Ідэя "Народнага рэферэндуму" шмат каго зачапіла. Палітычна актыўная частка грамадства падзялілася на прыхільнікаў і скептыкаў. Людзі, з якімі мы размаўляем у рэгіёнах, з ходу падхопліваюць ідэю, пачынаюць разважаць пра найбольш актуальныя пытанні. Улада прыняла за лепшае дэманстратыўна ігнараваць кампанію, разам з тым таемна альбо непрыхавана адсочвае нашы сустрэчы ў кожным горадзе.

Пры ўсёй нязгодзе з ацэнкай якасцяў беларускага народа адзначу, што гісторыя мае шмат прыкладаў, калі цярплівых беларусаў дапякалі. Нешта падобнае наспявае і цяпер. Але ці стане каталізатарам народнага незадавальнення адсутнасць дэмакратыі, свабодных выбараў і падзелу галін улады, пра што толькі і можна пачуць ад шэрагу апазіцыйных лідараў? Гэтыя каштоўнасці цывілізаванага свету для большасці нашага грамадства пакуль не сталі сваімі.

Затое беларускія сяляне прадэманстравалі, што здольныя адстойваць свае правы, калі ўлада замахнулася на рэчы, што для іх з'яўляюцца важнымі і сваімі. Праявы народнага гневу мелі месца там, дзе чыноўнікі пайшлі на знішчэнне прыватнай гаспадаркі (свінагадоўлі).

Такімі ж "сваімі" пытаннямі ёсць для беларусаў і права на нармальную медыцыну, якая павінна лячыць, а не калечыць, прыстойную адукацыю для дзяцей, незалежны і справядлівы суд, магчымасць самастойна зарабляць і мець забяспечаную старасць, павага і адказнасць з боку мясцовай улады і г.д. Вось толькі ўлада і частка апазіцыйных палітыкаў у сваіх разважаннях пра высокія матэрыі забыліся на гэта, на самае патрэбнае, самае балючае, такое простае, але без якога няма чалавека і жыцця. І ўсё ж сітуацыя змянілася кардынальна, арэлі хіснуліся ў іншы бок. Раней людзі бачылі ў існуючай уладзе гаранта такіх сваіх правоў, а цяпер не. Многія ўжо не вераць ні ў магчымасці ўлад, ні ў іх кампетэнтнасць.

Спадар Мікола гаворыць, што, можа, лепш замест некалькіх пытанняў з розных сфер выставіць адно, але галоўнае. Напрыклад, патрабаваць вяртання да Канстытуцыі ўзору 1994 года. Але Канстытуцыя, як і самы дасканалы механізм правядзення выбараў, стварае форму, але не напаўняе яе зместам. Самі па сабе законы не змяняюць грамадства. Толькі адказныя грамадзяне могуць прымяняць законы для развіцця і нацыянальнай згоды. І хочацца нагадаць прыхільнікам тэорыі вырашэння складаных пытанняў простымі механізмамі: Аляксандр Лукашэнка прыйшоў да ўлады на падставе Канстытуцыі 1994 года шляхам удзелу ў адзіных справядлівых выбарах за ўсю гісторыю незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Задача "Народнага рэферэндуму" — аб'яднаць людзей у адстойванні сваіх правоў і законных інтарэсаў, якія сёння ім не могуць быць гарантаваны збанкрутаванай уладай. Імкліва рэагаваць на грамадскія змены, на новыя патрабаванні, новыя формы. Не проста стаяць на чале, але ісці разам з народам, уважліва слухаючы і чуючы людзей. Паказаць, што разам нас большасць і што сёння маленькае дзеянне кожнага, такое як подпіс у падтрымку "Рэферэндуму" ці ўкінутая ў суседскую скрыню ўлётка, заўтра здольныя ператварыць вялікую колькасць паасобку незадаволеных індывідаў у згуртаваную сілу, якая мае супольныя інтарэсы і выстаўляе супольнае патрабаванне.

Такая сіла стане асновай для змен!

### ДЛЯ ТЫХ, ХТО НЕ Ў ТЭМЕ

## Што такое «Народны рэферэндум»?

*Пра кампанію "Народны рэферэндум" у маі абвясцілі Партыя БНФ, рух "За свабоду" і грамадзянская кампанія "Гавары праўду!". Пазней ініцыятыву падтрымалі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і аргкамітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.*

*Мэта — правесці ў Беларусі новы рэферэндум, які вызначыць тое, як павінна развівацца краіна. У парадак дня рэферэндуму будуць сфармуляваны пяць пытанняў. Яны павінны тычыцца ўсёй Беларусі, весці да сістэмных змен у краіне, аб'ядноўваць, а не раз'ядноўваць беларусаў.*

*Ініцыятыва адкрытая для далучэння. Узяць удзел у абмеркаванні пытанняў можна на сайце http://referendumby.org.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## Что с квартирой Михаила Снегиря?

***Расскажите, пожалуйста, что с квартирой экс-прокурора Минской области Михаила Снегиря? Кому она сегодня принадлежит? Еще интересно, как решился вопрос с его загородным домом? Читал в газетах, что после приговора суда Снегирь заявил, что его упрятала за решетку какая-то мафия и что кто-то кому-то мешками носил деньги, чтобы его посадили. А что говорит Снегирь после освобождения?***

**Павел Жданович, Минск.**

К сожалению, ни Михаил Снегирь, ни его супруга сегодня не хотят давать комментарии для прессы.



"*Я вообще не хочу ничего говорить — ни хорошо, ни плохо,* — говорит супруга экс-прокурора Анна Макаровна. — *Пусть это все останется нашим личным делом*".

Бизнесмен **Владимир Сидорович** рассказал "Народной Воле", что давно вывез свои вещи из квартиры по улице Грибоедова в Минске, за которую в свое время судился со Снегирем.

— *Квартиру конфисковали в доход государства, а затем продали на открытом аукционе,* — говорит Владимир Евгеньевич. — *Я забрал оттуда свою мебель и все остальное. На этом история закончилась.*

Что касается коттеджа, к строительству которого имел отношение Снегирь, то его, по словам адвоката, конфисковали не полностью — большую часть дома оставили супруге.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

БОЛЬ

# Салодка-горкі прысмак настаўніцтва

За 38 гадоў майго настаўніцтва ўпершыню было неяк абыякава на душы, магчыма, нават балюча і крыўдна напярэдадні 1 верасня, калі не патрэбна было збірацца на заняткі, рыхтавацца да іх, ісці сустракацца са сваімі калегамі, бачыцца з радаснымі навучэнцамі. За ўсе гэтыя гады, першы раз, ужо не было патрэбы спяшацца на працу, а ёй жа было аддадзена ўсё...



Гляджу з пагорка свайго жыцця і педагагічнага вопыту, і шмат пытанняў узнікае ў маёй душы. І мне здаецца, што са мной могуць пагадзіцца многія.

На апошнім у сваім жыцці педсавеце я сказала, што буду пісаць пра складаную і адказную прафесію — Настаўнік. Хоць потым камусьці было выгадна перайначыць і сказаць, што я пагражала напісаць скаргу ў Міністэрства адукацыі, чамусьці гэтага вельмі баяцца. Я ніколі не была кляўзнікам, ды і навошта турбаваць міністэрства? Я так думаю, што там добра ведаюць і павінны разумець многія праблемы і цяжкасці нашай прафесіі.

Відаць, многія калегі, адпрацаваўшы ўсё жыццё, аддаўшы ўсё, што маглі, часам ахвяруючы сям'ёй, сваім здароўем, сыходзяць у нябыт і нават не чуюць добрага слова на развітанне. Так не павінна быць!

На маім жыццёвым шляху сустракаліся, на шчасце, добрыя, разумныя, шчырыя, мудрыя педагогі як у школе, так і ў інстытуце, а таксама мае дарагія аднакурснікі, калегі, з якімі прыходзілася працаваць. Мне хацелася б пра іх пісаць, гаварыць, прысвячаць ім шчырыя радкі. Бо, сапраўды, многія з іх аддалі любімай прафесіі ўсё: іншы раз свае лёсы не ўладкавалі, сваім дзецям і сем'ям недадалі цеплыні і ўвагі. А што атрымалі ўзамен?

Добра, калі перад адпраўкай на заслужаны адпачынак ім падзякавалі за работу і сказалі некалькі цёплых слоў. Са мной абышліся так, як, магчыма, з большасцю маіх калег. Ніяк. Няма чалавека — і не трэба. Толькі не ведаю, за што? Можа, за тое, што працавала сумленна, што старалася ў душах сваіх навучэнцаў пасеяць разумнае, добрае, вечнае, выхоўваць іх чулымі, добрымі, людскімі, што праводзіла цікавыя сустрэчы, мерапрыемствы?

І цікавая гэта штука кантракт — той кароткі паводак, на якім трымае наймальнік работніка. Безумоўна, я ўдзячна за тыя пяць гадоў, якія шчыра працавала, будучы на пенсіі. Бо пражыць на такую пенсію складана. І хоць я не прывыкла да раскошы, бо з маленства засталася круглай сіратой, але старалася, вучылася, ездзіла ў будаўнічыя атрады (аж тры разы ў Казахстан), і працавала старанна і шчыра, але вялікіх набыткаў не нажыла. Дзе толькі запрашалі — усюды ішла, згаджалася і працавала. І заслужыла пенсію — 2 мільёны 380 тысяч рублёў.

Цяпер як падумаю, колькі было праверана сшыткаў — стосы, а якія ж капейкі плацяць за гэтую складаную і адказную працу... Відаць, няма ніводнага мовазнаўцы, хто б не страціў зрок, правяраючы іх. І нікому ж не паскардзішся...

Я думаю, што той, хто прыдумаў такую плату за праверку сшыткаў, сам бы ніколі не ўзяўся іх правяраць. Патрэбна думаць, як мовазнаўцаў разгрузіць, даўно ішла размова пра скарачэнне для іх педагагічнай стаўкі. Падчас маёй работы гэтага так і не адбылося.

І калі б чалавек атрымаў годную пенсію, то і не трымаўся б за работу, вырошчваў бы кветкі на лецішчы, ездзіў на экскурсіі, радаваўся б жыццю.

Асабіста я вельмі балюча перажыла "сыход" з работы. Магчыма, не была маральна падрыхтавана, бо не мела ніякіх заўваг, душой і сэрцам прырасла да дзяцей, да ўсяго беларускага.

Пра стан беларускай мовы — размова асобная. Я яшчэ да гэтай тэмы вярнуся. А за што са мной не працягнулі кантракт? Можа, таму, што на педсаветах я ўзнімала важныя пытанні, якія тычацца педагагічнай дзейнасці, магла сказаць праўду ў твар дырэктару ўстановы? А можа, таму што выкладчык М.В.Шарко да 50-годдзя каледжа напісаў кнігу, прысвечаную ўстанове, але не ўсё спадабалася адміністрацыі, і кнігу забаранілі? А я выказалася ў абарону, бо сапраўды лічу, што ў кнізе сабраны вялікі і цудоўны матэрыял. А аўтар мае права на свае думкі і меркаванні.

Больш за тое, ніхто са мной не пагаварыў, не растлумачыў прычыну майго звальнення. Уручылі паведамленне, што прычына — адсутнасць педагагічнай нагрузкі. Але што мяне больш за ўсё здзівіла, дык гэта тое, што беларускую мову і літаратуру будзе выкладаць настаўнік... рускай мовы і літаратуры. Вось так.

Напісаць гэта прызнанне-споведзь мяне натхніў артыкул Алеся Рашчынскага "Бі іх, бо яны — лепшыя за нас", змешчаны ў "Народнай Волі". Спадзяюся, што гэта будзе мой першы, але не апошні допіс у газету, бо хачу шмат што расказаць пра складаную, пачэсную, патрэбную прафесію — Настаўнік.

Але і салодкі прысмак ад работы застаўся — гэта ўспаміны маіх навучэнцаў, іх бацькоў, незабыўныя сустрэчы з разумнымі, добрымі, мудрымі людзьмі, а горкі прысмак — гэта тая "ўдзячнасць", якую я заслужыла за сваю работу.

**З павагай —**

**Алена Казіміраўна БАЛОЦЬКА, былы выкладчык роднай мовы і літаратуры.**

*г.Салігорск.*

ЗАДУМАЕМСЯ...

# Тэорыя Мальтуса,
## ці Што залежыць ад матылька, а што— ад чалавека?

Нядаўна ў тралейбусе пачуў размову двух маладых людзей (як потым зразумеў — студэнтаў), якая мяне не магла пакінуць раўнадушным. Аказваецца, сучасную моладзь цікавяць не толькі шашлыкі, дыскатэкі, смартфоны, а і нешта куды больш важнае.

Адзін з хлопцаў узгадаў выступленне Палада Бюль-Бюль Аглы, вядомага кампазітара і дзяржаўнага дзеяча Азербайджана, на VIII форуме творчай і навуковай інтэлігенцыі дзяржаў — удзельніц СНД у Мінску ў верасні 2013 года. На ім Бюль-Бюль Аглы ўспомніў фантастычнае апавяданне Брэдберы, калі з-за аднаго задушанага матылька змянілася экалогія на Зямлі. Многія выступоўцы таксама гаварылі, што нельга так бяздумна высякаць лясы, высушваць балоты, будаваць атамныя электрастанцыі... Але яны не сказалі галоўнага.

І малады чалавек выказаў сваё меркаванне:

— Чалавек — самы страшны вораг экалогіі, куды страшней ураганаў, цунамі, землятрусаў, — казаў ён. — Тэорыя Мальтуса збываецца. Хіба ён быў не правы, калі сцвярджаў, што насельніцтва на планеце размнажаецца па прынцыпе геаметрычнай прагрэсіі, а прадукты харчавання павялічваюцца толькі па арыфметычнай прагрэсіі і што толькі войны, эпідэміі, голад рэгулююць колькасць людзей на Зямлі? Прырода сама рэгулюе колькасць таго ці іншага віду жывых істот на Зямлі, а колькасць людзей — ніхто. Чалавек сваім неразумным, грубым умяшаннем парушае яе раўнавагу. Калі ў канцы XIX стагоддзя на нашай планеце жыло менш за 2 мільярды чалавек, то цяпер — ужо каля 7 мільярдаў. А, па прагнозах, да сярэдзіны XXI стагоддзя будзе жыць 10 мільярдаў чалавек! У Кітаі, дзе назіраецца катастрафічны рост насельніцтва, ёсць закон: адна сям'я — адно дзіця. Там новыя ўлады вырашылі правесці эксперымент у адной з правінцый і дазволіць мець дзяцей неабмежавана. Тут жа адна з кітаянак заявіла, што яна народзіць дзясятак дзяцей. А тыя — яшчэ па дзесяць. А дзе ім жыць, чым іх карміць — жанчына аб гэтым не задумваецца.

Зямля — не гумовая. Плодзячыся па геаметрычнай прагрэсіі, чалавек для сваіх патрэб знішчае арэал існавання жывёл і раслін. Дзе жыць няшчасным сланам, жырафам, зайцам, ільвам, арлам, буслам, іншым звярам і птушкам?..

Я ўспомніў вучобу ў Інстытуце паліталогіі ЦК КПБ. Нас таксама знаёмілі з тэорыяй Мальтуса, багаслова і філосафа XVIII стагоддзя. Яе называлі фашысцкай і чалавеканенавісніцкай ілжэнавукай (як у часы сталінізму генетыку і кібернетыку — буржуазнымі лжэнавукамі). Але калі разабрацца: які механізм рэгулюе колькасць людзей на Зямлі?

Некаторыя вучоныя выказваюць думку, што аптымальная колькасць людзей, якіх можа пракарміць наша планета без шкоды для асяроддзя, — 6 мільярдаў чалавек. На міжнародных форумах у ААН чамусьці не ўзнімаюць гэтае пытанне. Відаць, лічаць некарэктным гаварыць аб тым, што даўно прыйшоў час нейкім чынам рэгуляваць колькасць людзей на планеце Зямля.

Вось і на VIII форуме творчай і навуковай інтэлігенцыі краін СНД у Мінску чамусьці пасароменіся аб гэтым гаварыць.

Думаю, трэба не засмучацца, а радавацца, што колькасць насельніцтва Беларусі паступова змяншаецца. Не трэба забываць, што Гасподзь даў Зямлю не толькі людзям.

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ.**

МНЕНИЕ

# Доносительство «в законе»,
## или Почему вносятся поправки в пять Кодексов?

*Удивление и возмущение испытал, когда прочитал предлагаемые поправки в Уголовный, Уголовно-процессуальный, Уголовно-исполнительный кодексы, Кодекс об административных правонарушениях и Процессуально-исполнительный кодекс об административных правонарушениях. 750 поправок на 67 страницах!*

Создается такое впечатление, что нас снова пытаются вернуть в 30-е годы советского прошлого. Тогда люди принуждались к доносительству. В стране развернулась кампания по выявлению "врагов народа", которыми становились добропорядочные граждане, оклеветанные стукачами и теми, кто не выдерживал пыток в застенках НКВД.

Большая часть поправок относится к Уголовному и Уголовно-процессуальному кодексам. Главными в них являются понятия "уголовно-правовая компенсация" и "досудебное соглашение о сотрудничестве".

Смысл первого из них состоит в том, чтобы "откупиться" от уголовной ответственности. От подозреваемого (обвиняемого) требуется перечислить на депозит органа следствия сумму, которую насчитают в качестве вреда от совершения преступления. Правда, кроме "уголовно-правовой компенсации" надо еще согласиться сотрудничать с "органами" и выдать все, что лицу известно о преступной деятельности, о соучастниках, и все, что он знает.

Так называемому досудебному соглашению о сотрудничестве посвящено почти 30 страниц поправок в Уголовно-процессуальный кодекс.

### Что это такое?

Разъяснение этому понятию дается в дополнении к статье 6 УПК: *"...соглашение, заключенное в письменном виде между подозреваемым (обвиняемым), в котором определяются обязательства подозреваемого (обвиняемого) по оказанию содействия предварительному следствию и условия наступления ответственности подозреваемого (обвиняемого) при выполнении им указанных обязательств".*

Из приведенного определения можно понять, что это не что иное, как принуждение к сотрудничеству. Путем оговора других соучастников можно рассчитывать на "поблажки" от следствия, прокурора и суда, в том числе на прекращение уголовного дела и освобождение от ответственности.

В Уголовно-процессуальный кодекс предлагается ввести специальную главу УПК (49 прим.) "Производство по уголовному делу в отношении подозреваемого (обвиняемого), с которым заключено досудебное соглашение о сотрудничестве". Такое производство будет вестись как досье на подозреваемого (обвиняемого), если он согласится написать на имя прокурора ходатайство, в котором заявит о признании своей вины в совершении преступления, укажет (*при помощи следователя. —* ***Авт.***) действия, которые он обязуется совершить в целях оказания содействия в расследовании преступления, изобличении других соучастников преступления, розыске имущества, приобретенного преступным путем, а также действия по возмещению имущественного ущерба, уплате дохода, полученного преступным путем, иные действия, направленные на заглаживание вреда, причиненного преступлением. Подозреваемый (обвиняемый) может взять на себя обязательство сообщить известные ему сведения о других преступлениях и лицах, их совершивших.

### Как это понимать?

Давайте задумаемся: может ли человек без принуждения признаться в совершении преступления и рассказать все, что ему известно о преступной деятельности всех соучастников и взять обязательство компенсировать убытки, которые наступили от преступной деятельности? Ясно, что сделать это он может не по причине "хорошего" к нему отношения со стороны органов расследования. То есть предполагается применение к нему недозволенных методов или длительное сидение в следственном изоляторе.

На мой взгляд, легализация такой тактики расследования преступлений — это аморальный, неконституционный и, при определенных обстоятельствах, преступный путь. Вполне возможно, что каждому подозреваемому (обвиняемому) будут предлагать "сотрудничать" со следствием, используя для воздействия различные методы и средства.

### К чему это приведет?

При помощи института "досудебного соглашения о сотрудничестве" органы следствия могут раскрутить маховик репрессий до любых размеров, вовлекая в него все новых и новых "соучастников". Под каток репрессий может попасть каждый как недовольный властью, так и случайный обыватель. Придется еще раз повторить урок 70-летней давности. Он всем известен, как и его финал. Но этого нельзя допустить!

Предлагаю всем заинтересованным людям прочитать на Национальном правовом портале Pravo.by этот законопроект и сказать ему свое "Нет!".

***

Беларусь созрела для реформ. Их нельзя остановить ужесточением уголовной политики и навязыванием доносительства под видом "досудебного соглашения о сотрудничестве".

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, заслуженный юрист Республики Беларусь.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

## Будет ли вручение коробки конфет врачу расценено как коррупционное преступление?

— Нет, если вы ее подарите, например, доктору в день рождения или ко Дню медицинского работника и это не будет обусловлено соответствующими действиями врача, — рассказал начальник отдела по борьбе с коррупцией и организованной преступностью прокуратуры города Минска **Сергей Борисенко.** — Но если вы презентуете сладости за необоснованно выписанный листок нетрудоспособности или неположенный рецепт, то и вы, и врач рискуете получить судимость.

Но тут есть свои тонкости. Во время осмотра пациента врач не должностное лицо. А когда выписывает рецепт или больничный — уже да. И вознаграждение за эти действия, завуалированное под подарок, будет взяткой.

Вот такой ребус.



Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 КАСТРЫЧНІКА 2013 г.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Танцы в парке

*Я зашла в приемную, когда наша секретарь Нина Михайловна Леончик пыталась отбиться от настойчивого приглашения седовласого кавалера сходить на танцы: "Не дурите мне, пожалуйста, голову! У меня дача, куча домашних дел, внуки... Ну в самом деле: какие в моем возрасте танцы!"*

*"На этой танцплощадке каждые выходные 500 человек собирается! В том числе те, у кого и внуки, и дачи! И танцуют!" — настаивал посетитель редакции.*

*Я решила, что ослышалась. 500 человек танцуют под открытым небом? Ну ладно еще летом, но в такой-то холод?..*

*"Ну что я вам на пальцах объяснять буду — приходите в эти выходные и сами все увидите, — предложил Михаил Николаевич Тимошевич. — Вот вам мой телефон, я вас встречу, все покажу и расскажу. Заодно, может, и потанцуем..."*

*И я пошла...*



На танцевальной площадке в парке Челюскинцев собирается народа больше, чем на некоторых акциях, которые устраивает оппозиция.

## Где взять крышу

Мы встретились около центрального входа в парк Челюскинцев. Михаил Николаевич выглядел по-парадному: галстук, белоснежный вязаный свитер, костюм.

*— Давайте сначала сходим на старую танцплощадку, которая уже несколько лет пустует, а затем уже пойдем на действующую*, — сразу предложил мой спутник.

По дороге выясняю, что в молодости Михаил Тимошевич работал шофером, затем устроился слесарем на завод железобетонных изделий. На танцы каждые выходные приезжает из поселка Колодищи-2.

*— Дома скучно*, — просто объясняет он.

*— С супругой ездите?*

*— Один. С женой разошлись давно...*

*— А что же второй раз не женились?*

*— Песня есть такая: "Задумал старый дед другой раз жениться, если старую жену взять — работать не будет, молодую жену взять — его не полюбит, а коли полюбит, то не поцелует..." Поэтому и не женился. Но на танцплощадке романы, бывает, случаются...*

*— Сколько вам лет, если не секрет?*

*— 75. А на танцы я сюда, можно сказать, случайно попал шесть лет назад. Пришел в парк Челюскинцев на 9 Мая с другом, отметили праздник, и решили потанцевать. Вот с тех самых пор и хожу...*

Михаил Николаевич показывает на забор, за которым виднеется белый навес, похожий на отцветающий тюльпан. Рядом — несчастное на вид, слегка обшарпанное и наполовину прикрытое зеленой сеткой кирпичное здание.

*— Это старая летняя танцплощадка*, — кивает мой экскурсовод на территорию под навесом. — *А рядом — зимняя. Эту территорию несколько лет назад выкупил какой-то московский делец. Но дела у него, видно, не пошли. Вначале он открыл здесь кафе. Только за вход нужно было платить 150 тысяч! И 600 тысяч за бутылку вина! Ну кто ж пойдет за такие деньжищи? Правда, некоторые все-таки пару раз зашли — для интереса. А потом плюнули — и все! Владелец, наверное, вылетел в трубу с таким подходом к бизнесу. И вот уже пару лет все это пустует...*

*Мы просили, чтобы здесь организовали нормальную танцплощадку. Чтобы можно было прийти в холодное время года, раздеться, потанцевать, а заодно попить чая, пообщаться, перекинуться в картишки или домино. Четыре листа подписей насобирали! Наше письмо из Совета министров переправили в Мингорисполком.*

Михаил Тимошевич показывает ответ, который получил на свое обращение в июле этого года от зампредседателя Мингорисполкома **Игоря Карпенко.**

*"Согласно решению Мингорисполкома от 25.08.2011 г. №2524 танцевальный зал "Минск", танцевальная встреча "Веранда" и эстрадно-концертный купол в парке были безвозмездно переданы в собственность компании "Fairytale Holdings Ltd.", которая начала реконструкцию объектов и на период осуществления строительных работ оборудовала новую танцевальную площадку в этом же парке вместимостью 300 человек,* — пишет чиновник. — *В текущем году проведено благоустройство этой танцевальной площадки, организован удобный график работы танцевальных программ, а также бесплатные посещения площадки пожилыми людьми в праздничные дни.*

*В связи с неисполнением обязательств компании "Fairytale Holdings Ltd." по реализации инвестиционного проекта Минским горисполкомом рассматривается вопрос о расторжении договора с данной компанией и передаче объектов другому инвестору. Дополнительно информируем, что для пожилых людей в Минске проводятся танцевальные программы в сопровождении духовых оркестров в летний период в парках, а также с сентября по май — во всех Дворцах культуры".*

У Тимошевича по поводу благоустройства новой танцплощадки свои аргументы.

*— На новой площадке под открытым небом условия очень плохие*, — комментирует он. — *Вальс танцевать нельзя, потому что просто развернуться негде! Навес маленький — в дождь там все не помещаются. Плитка лежит криво — женщины уже не один каблук сломали! Впрочем, сейчас сами все увидите...*

*И потом, два с половиной часа потанцевал, а дальше что? Домой идти? На диван к телевизору?*

*Что касается Дворцов культуры, то там вход на танцевальные вечера стоит недешево, и если каждые выходные ходить на танцы — в копеечку выльется. А пенсия у нас сами знаете какая... Поэтому нам бы отвоевать вот это здание, пусть старое, но с крышей. Сейчас вот мода на дворцы спортивные пошла, их везде строят. Так неужели пожилые люди не заслужили хоть какую-то крышу над головой?..*



Нина Николаевна с подругой приходят сюда почти каждые выходные в любую погоду.

## Кефир или все-таки вальс?

По дороге на новую танцплощадку Михаил Николаевич обращает мое внимание на солидного мужчину в синем плаще. Он медленно идет по тропинке, опираясь на трость. Рядом с ним — дама в кокетливой белой шляпке. "*Они тоже на танцы*, — информирует мой спутник. — *Он палку в угол бросает — и в пляс!"*

Я даже улыбнулась, когда через полчаса увидела эту пару "в деле": кавалер, как будто и в помине не было никакой хромоты, лихо отплясывал со спутницей зажигательную полечку!

Вход на танцплощадку — 10 тысяч. Тянусь за кошельком, но Михаил Николаевич строго говорит: *"И не думайте даже! Я вас пригласил, значит, мне и платить!"*

Танцплощадка, которую чиновники называют благоустроенной, огорожена невысоким забором. Внутри — скромная сцена с навесом, под которым 100 человек вряд ли развернутся. А в выходные здесь собирается гораздо больше любителей активного отдыха.

Около забора по разным углам вешалки, на которые танцующие в парке пристраивают верхнюю одежду и сумки. Народа немало.

Стоит заметить, что публика — праздничная. Женщины с макияжем и прическами, на каблуках, мужчины тоже при параде. В воздухе витает приятный аромат коллективного парфюма, из колонок гремит музыка.

*— Сюда приходят люди разного возраста*, — рассказывает Михаил Тимошевич. — *Вот этому мужчине 82 года — он здесь тоже каждые выходные, той даме — 42...*

*— Некоторые приходят сюда и говорят: "Лучше я здесь на танцах умру, чем дома в одиночестве!"*, — незаметно подключается к разговору моложавая плясунья в розовой куртке. — *Я вот в больницу недавно попала, так ко мне партнер по танцам приезжал, яблоки привозил — просто как друг. Ну разве это плохо? А вот этот дедушка — посмотрите: ему, если не ошибаюсь, 95 лет, он ездит сюда аж из Сенницы! На вокзал пешком идет и с вокзала тоже. Торбочку свою на плечо — и вперед! Экономит на проезде. И все ради этих танцев! А как танцует!*

Танцует и вправду неплохо. И пока я наблюдала за ним, ни одна барышня не отказала ему в медленном танце!

*— Да, я пенсионерка, но не хочу стареть, лежа на диване. Ну посмотрите, разве мы старые?*— перекрикивает музыку другая дама и тут же пускается в пляс.

*— Весной здесь подняли цену на билет — за вход просили 15 тысяч*, — вводит меня в курс дела еще одна танцорка, которую зовут **Нина Николаевна**. — *А за что здесь платить такие деньги? Плитка положена неровно, набойки застревают в этих дырках! А сколько тут каблуков поломанных осталось! Это хорошо еще сегодня подмели, а так шишки валяются, ноги цепляются...*

*Про воровство уже и не говорю. Сюда ведь всякие приходят: одни идут потанцевать, а другие — поживиться. Раздевалки нет, сумку повесить — только если на гвоздике. Одним словом, когда мы стали протестовать, цену снизили. Но для пенсионера 10 тысяч — тоже немалые деньги. И жалко иной раз - думаю: лучше лишний пакет кефира куплю... На лекарства миллион уходит почти каждый месяц...*

*Но все равно людей собирается очень много. Настолько много, что впритык танцуем, локоть в локоть! Сейчас закроют эту танцплощадку — и некуда податься! В залах танцевальных на Тракторном заводе, во дворцах культуры еще в прошлом году за вход брали по 20 тысяч. Теперь, видимо, еще дороже. А еще посчитайте проезд — два талона туда, два — обратно. И если каждые выходные танцы — редкий пенсионер может позволить себе такое удовольствие!..*

*— Некоторые чиновники не стесняются говорить: мол, этим старикам еще и танцплощадка нужна!* — обижается красивая пожилая женщина, которая повесила пальто на вешалку и осталась в легком костюме. — *Ну зачем с нами так? Все рано или поздно будут дряхлыми. Молодежь думает, что никогда не постареет. А годы — они же быстро летят. Обернуться не успеешь... От одиночества и старости никто не застрахован. Ну неужели так трудно отремонтировать и отдать нам ту старую танцплощадку? Не такие это и большие расходы для города, тем более что мы много не просим. Просто дайте место, где смогут проводить время одинокие люди. К любому человеку нужно относиться с любовью и нежностью. И государство ведь от этого только выиграет, и будет вправе рассчитывать на нашу поддержку в трудную минуту, а так...*

Кстати, никто из тех, с кем я разговаривала, не отказался сфотографироваться или назвать свое имя. И почти все на камеру такие па выделывали! Но поскольку профессиональной техники с собой не было, а герои материала ни на секунду не хотели притормозить, многие снимки получились размытыми...





Михаил Николаевич Тимошевич переживает, что старая танцплощадка пустует, а старикам потанцевать негде.







На некоторые пары просто приятно посмотреть…

## Сыграй мне песню, музыкант!

Когда я вхожу в кабинку местного диджея, народ на танцплощадке душевно топчется под старый хит Солодухи "Здравствуй, чужая милая!".

*— Я даже не удивлен вашему приходу*, — с улыбкой говорит звукооператор городских парков Вадим. — *Эти люди постоянно кого-то приглашают: танцы все-таки!*

По его наблюдениям, публика на танцплощадке собирается разная.

*— По пятницам, бывает, 100 человек приходит, по субботам-воскресеньям — полная площадка!* — рассказывает Вадим. — *В субботу публика одна, в воскресенье — другая. Те, у кого есть дачи, танцуют, как правило, либо в пятницу, либо в воскресенье.*

*Женщин приходит больше, но и мужчин немало. Возраст — от 40 и выше.*

*По весне ходил один мужчина и все время жаловался: то музыка не нравится, то шишка на голову упала. А тут смотрю — стал кокетничать с какой-то мадам. Начал в галстуке приходить, причесываться, одеваться лучше. Танцевали они, танцевали, а сейчас пропали — может, и поженились...*

*Музыку здесь любят зажигательную — вальсы, польки, хиты сегодняшние и прошлых лет. Всегда на ура идет Наташа Королева. Приходят мужчины — просят побольше медленных песен ставить, им пригласить кого-то хочется. А женщины идут: ставьте быстрые, нам нужно энергию выплеснуть!*

*У нас есть услуга — за 5 тысяч рублей можно заказать любую песню. Некоторые приходят с чеком и говорят: "Поставьте песню!" Спрашиваю: "Какую?" Ну для меня, говорят, поставьте! Или оплатят, закажут, а у меня такой песни нет. Обижаются! Так я теперь прошу, чтобы заявки в письменном виде заранее оставляли.*

*Некоторые уже здороваются. Эта танцплощадка — как клуб по интересам...*

*В дождь, конечно, стараемся не проводить танцы, но они все равно приходят и просят, чтобы включили музыку. А по технике безопасности нельзя. Они набиваются под этот купол и вальсы просят. Но вальс под навесом не станцуешь — места очень мало.*

*Если бы вложили энную сумму денег и отремонтировали старую танцплощадку, может, она и приносила бы какую-то прибыль. Народа-то, видите, сколько уже собралось! Честно говоря, и диджеям там было удобнее — у нас в том здании и комната своя была, можно было вещи какие-то оставить, а здесь условий нет... Да и танцующим неудобно.*

*Сюда какое-то начальство из Мингорисполкома заезжало. Посмотрели на эту танцплощадку, махнули рукой и сказали: нормально...*

## До первого снега

Как только выпадет первый снег, танцплощадку закроют. До следующей весны.

*"Снег ляжет — танцы прекратятся*, — объясняет диджей Вадим. — *Не дай Бог снег кому на шею упадет — музыка ведь громкая, навес трясется. Да и скользко, когда приморозит, мало ли что...*

"*Лет пять назад нас отправили в кинотеатр "Киев", потом — в "Ракету", затем — в "Дружбу", оттуда — в Дом глухонемых на Уральской, а куда в этом году попадем — не ясно*, — вздыхает Михаил Тимошевич. — *Хорошо, чтобы не на окраину какую, куда добраться непросто. Издеваются над стариками! Строят все для молодежи. Почему думают, что нам уже ничего в этой жизни не нужно?.."*

Я уже собралась уходить, а в кассе — очередь. До окончания танцев — почти час.

*"Иногда танцы бывают бесплатные — когда праздники всякие, или вот на День пожилых людей,* — рассказывает мне кассирша. — *И когда бесплатный вход — набивается полная площадка, даже повернуться негде! Иногда 500 человек, иногда больше. И все веселятся, танцуют. Вот два с половиной часа танцы — и никто не уходит раньше! Танцуют до последнего. А если бы музыка играла больше, они танцевали бы дальше. Говорят, что это как гимнастика. Вместо витаминов. И приходят сюда с таким удовольствием — ну просто не передать словами! Нужно хоть раз просто ощутить эту атмосферу. Все улыбаются. Злых или недовольных здесь не бывает. Некоторые признаются, что не могут дождаться выходных. Они вообще молодцы. У этих людей точно есть чему поучиться младшему поколению!.."*

*"Девушка, не уходите!* — неожиданно догоняет меня на выходе строгий и неприступный на вид сотрудник службы безопасности, который следит здесь за порядком. — *Давайте потанцуем..."*

Удержаться от танцев здесь и вправду просто невозможно...

**Марина КОКТЫШ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Беларускія медсёстры, што загінулі пад Геленджыком, былі сектанткамі

*Завершана расследаванне па факце знікнення беларусак у кастрычніку 2012 года.*

"Аналіз атрыманай падчас следства інфармацыі паказаў, што зніклыя вялі надта адасоблены лад жыцця і апошнія некалькі гадоў сістэматычна адпачывалі ў г.Анапа Расійскай Федэрацыі. Гэта было абумоўлена тым, што расшукваемыя з'яўляліся паслядоўніцамі "руху Анастасіі", — паведаміла прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі **Юлія Ганчарова.**

Беларускія медсёстры з 4-й Гарадской клінічнай бальніцы Мінска Аліна і Ганна адправіліся ў Расію летась 13 кастрычніка. З Мінска выехалі на цягніку да Анапы: у іх быў адпачынак. Пасля гэтага іх не бачылі. Іх целы знайшлі сёлета 2 мая ў лесе каля расійскага Геленджыка ў палатцы. Па словах следчых, яны замерзлі яшчэ ў сакавіку.

У канцы сакавіка, між іншым, абедзве павінны былі адсвяткаваць дні нараджэння. Аліне спаўнялся 31 год, Ганне — 32.

Вакол сяла Адраджэнне (Возрождение), за 1,5 км ад якога і знайшлі целы беларусак, знаходзіцца шмат дальменаў, да якіх прыязджаюць турысты, часам з палаткамі. Многія вераць, што гэта не проста камяні. З таго часу, як Уладзімір Мегрэ ў сваіх кнігах апісаў дальмены каля Адраджэння, туды круглы год прыязджае шмат людзей — нехта "з яснымі духамі паразмаўляць", хтосьці проста памаліцца ў чаканні "прасвятлення" альбо "выздараўлення".

Дальмены — помнікі архітэктуры каменнага веку. Магчыма, тут хавалі племянных правадыроў і шаманаў. Некаторыя спадзяюцца, што дальмены дадуць багацце, здароўе, шчасце ў каханні, прасвятленне....

Гэта культавыя камяні для "анастасійцаў" — адной з новых сектаў, якая пашырае свой уплыў у Беларусі і пра якую наша газета расказвала ў артыкуле "По ком звенят кедры?". Яе адэпты прадаюць гарадскія кватэры і ствараюць "родавыя маёнткі" ў розных месцах, каб з'яднацца з зямлёй. Вучоныя ж называюць іх таталітарнай сектай.

АТЫ-БАТЫ

# На тэрыторыі Беларусі могуць з'явіцца кітайскія вайскоўцы

## Але навошта?

Палата прадстаўнікоў у першым чытанні прыняла законапраект, прадстаўлены міністрам абароны Беларусі. Ён ратыфікуе Пагадненне паміж Беларуссю і Кітаем пра статус вайсковых фарміраванняў Кітая, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, а таксама беларускіх фарміраванняў, якія знаходзяцца ў Кітаі для правядзення сумесных вучэнняў (трэніровак).

Пра гэта паведаміла газета Міністэрства абароны РБ "Во славу Родины". Па словах міністра **Юрыя Жадобіна**, гэтае пагадненне забяспечыць "падтрыманне высокага ўзроўню баявой гатоўнасці ўзброеных сіл бакоў, што забяспечвае адэкватнае рэагаванне на новыя выклікі і пагрозы міжнароднай бяспекі". Але што рабіць беларускім салдатам у Кітаі, а кітайскім — у нас? Якія сумесныя рэгіянальныя выклікі бяспецы мы маем?

ДАТА

# Гэты шлях не быў лёгкім!

## *Кампанія "Будзьма беларусамі!" адзначае пяцігоддзе*

*"За пяць гадоў дзясяткі арганізацый, кампаній ды ініцыятыў падтрымалі ідэю аб'яднання для папулярызацыі беларускай культуры і далучыліся да кампаніі, каб прасоўваць трэнд беларускага як сучаснага і перспектыўнага",* — адзначаецца ў прэс-рэлізе арганізацыі.

Сярод буйных праектаў — штогадовы фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі "Аднак!", камунікацыйныя праграмы "Краіна цмокаў" і "Культура паляпшае жыццё", музычны праект "Тузін. Перазагрузка" і аднайменная анімацыя "Будзьма беларусамі!".

За гэты час супольнымі намаганнямі літаратурныя і музычныя сустрэчы, фэсты і канцэрты, вандроўкі і лекцыі, кірмашы праектаў і ток-шоу, што ладзяцца па ўсёй краіне, ахапілі больш за 800 населеных пунктаў, а іх агульная колькасць перавысіла 9000.

Алена Макоўская, каардынатар кампаніі, кажа: *"Пяць гадоў кампаніі — добрая нагода перш за ўсё сказаць дзякуй усім, хто паверыў у наш запал і працягвае супольную працу. Таксама дзякуй усім, хто за гэты час далучыўся да нас, падтрымаў кампанію канкрэтнымі дзеяннямі, узбагаціў ідэямі, сваім талентам. Усім, хто прыняў беларускія каштоўнасці і далей рэтранслюе іх праз свой гурт, медыі, творчую суполку, рэкламную агенцыю ці аддзел культуры.*

*Гэты шлях не быў простым і лёгкім: увесь час трэба вынаходзіць нешта адметнае, бо сітуацыя ў Беларусі ў пэўным сэнсе ўнікальная, таму і аналагаў нашай кампаніі, каб было ў каго пераняць досвед, мы не знайшлі. Станоўчым фактарам ёсць падвышэнне зацікаўленасці беларусаў сваёй культурай, але наша мэта — спрыяць таму, каб беларушчына з трэнду канчаткова стала асновай дзяржаўнай палітыкі".*

За час свайго існавання кампанія пачала трывала асацыявацца з паняццем "якасная беларуская культура". У найбліжэйшай перспектыве — больш шчыльная праца ў рэгіёнах, стварэнне рэзанансных камунікацыйных праграм, актуальных для беларускага грамадства.

*"Праведзеныя ў абласных цэнтрах дыскусійныя мерапрыемствы, скіраваныя на абмеркаванне актуальных праблем культурнага асяроддзя, прадэманстравалі, што ёсць шмат неабыякавых людзей, гатовых аддаць свой час і энергію, каб зрабіць жыццё роднага горада ці мястэчка больш цікавым і разнастайным. Натхнёныя гэтым, мы абвясцілі "Кірмаш праектаў", каб кожная вартая ініцыятыва магла знайсці сабе аднадумцаў і паплечнікаў, больш за тое, працуем над стварэннем банка ідэй, каб паказаць жывыя прыклады тым, хто хоча палепшыць жыццё свайго рэгіёна.*

*Адна з задач кампаніі — не толькі дапамагаць ці самім рэалізоўваць цікавыя мерапрыемствы, але і натхняць іншых на актыўную дзейнасць, якая дапамагала б паляпшаць культурніцкі фон краіны",* — дадае каардынатар кампаніі Ніна Шыдлоўская.

### Да ведама

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" пачалася 1 кастрычніка 2008 года.

Кампанія спрыяе кансалідацыі беларускага грамадства праз узмацненне нацыянальнай ідэнтычнасці. Каардынатар кампаніі — Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ!

# Змены ў руху на мяжы для тых, хто мае TAX FREE

На польскай мяжы пачала працаваць асобная паласа для тых, хто зарэгістраваў VAT у інтэрнэце.

Гэта тычыцца пунктаў пропуску ў Кузніцы і Баброўніках. Рахункі TAX FREE можна зарэгістраваць загадзя, а можна скарыстацца бясплатным Wi-Fi на мяжы. Таксама рахункі ў сістэме рэгіструюць і некаторыя крамы. Польскія мытнікі спадзяюцца, што гэта дазволіць паскорыць пропуск на мяжы.

Паводле іх інфармацыі, ад пачатку года беларусы вывезлі з Польшчы тавараў на 630 мільёнаў злотых — гэта прыкладна 150 мільёнаў еўра. Летась праз памежныя пераходы Падляшскага ваяводства замежнікі вывезлі тавараў на 200 мільёнаў еўра.

